ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 92(5274) Чацвер, 16 жніўня 2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Пра што б хацелася сказаць на ІІ з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## У ПТВ — па жаданні

### або Каб збегчы са школы

Нягледзячы на адсутнасць гарантаванай сістэмы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, сістэма прафтэхадукацыі застаецца масавым шляхам атрымання моладдзю прафесіі.

Працэсы пераўтварэння прафесійнай адукацыі, якія адбываюцца цяпер, тармозяцца шэрагам праблем. Самыя значныя з іх — гэта слабыя агульнаадукацыйная падрыхтоўка абітурыентаў і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ПТВ, недахоп вучэбна-метадычнай літаратуры, адсутнасць на базе ПТВ дзейснай псіхолага-педагагічнай кансультацыйнай службы, нізкая і несвоечасовая аплата працы выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання, праблемы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі інжынерна-педагагічных работнікаў, увядзення новых прафесій і спецыяльнасцей.

Не сакрэт, што ў сельскія ПТВ на вучобу прыходзяць падлеткі, якія слаба вучыліся ў школе ці зусім не жадалі вучыцца па розных прычынах. Гэта пацвярджаюць праверачныя кантрольныя работы па фізіцы, хіміі, матэматыцы, рускай і беларускай мовах, якія праводзяцца па тэкстах, распрацаваных у Магілёўскім вучэбна-метадычным цэнтры за курс базавай школы. Ад 90 да 95 працэнтаў навучэнцаў, а па асобных прадметах і 100 працэнтаў, атрымліваюць на кантрольных работах двойкі.

На гэта ўплывае і тое, што частка настаўнікаў школ папросту выказваецца ў адрас такіх вучняў: "Не хочаш вучыцца — пойдзеш у ПТВ, будзеш круціць гайкі ці каровам хвасты".

На жаль, наша Бялыніцкае ПТВ № 217 у вялікай ступені папаўняецца вось такім кантынгентам падлеткаў як з Бялыніцкага, так і з суседніх Круглянскага і Бярэзінскага раёнаў.

Вялікая частка тых, хто паступіў у ПТВ — з асацыяльнымі паводзінамі і сацыяльныя сіроты, з няпоўных сем'яў, ёсць навучэнцы спецшкол. Значны працэнт з іх ужо здзейснілі правапарушэнні або нават крымінальныя злачынствы, стаяць на ўліку ў ІСН і РАУС.

Вось з такім кантынгентам, улічваючы і спецгрупы, трэба наладжваюць вучэбна-выхаваўчы працэс.

На сённяшні дзень у вучылішчы адсутнічае не толькі псіхолаг, але і сацыяльны педагог, няма кабінета псіхолага-педагагічнай службы.

На маю думку, улічваючы стан псіхафізіялагічнага і сацыяльна-псіхалагічнага развіцця асобных навучэнцаў, наспеў час ствараць на базе ПТВ псіхолага-педагагічную службу даверу з абавязковым уключэннем у яе штат псіхатэрапеўта. Карысць ад гэтага будзе ўсім: і навучэнцам, і выкладчыкам, і бацькам.

Не атрымоўваючы належнай падтрымкі, сам-насам з цяжкімі падлеткамі застаюцца майстар вытворчага навучання ды класны кіраўнік.

Прычым калі "цяжкі" падлетак зрабіў правапарушэнне, майстру і класнаму кіраўніку змяншаюць памер прэміі.

Рэальна на Савеце прафілактыкі ПТВ такі навучэнец атрымае вымову да наступнага правапарушэння.

Пасля заняткаў майстар і класны кіраўнік дзяжураць у вячэрні час у інтэрнаце, часам да гадзіны ночы. Але ж класнаму трэба падрыхтавацца да ўрокаў, якія пачнуцца ў восем гадзін раніцы. Ці ж гэта не здзекі? А дадайце сюды яшчэ і мізэрную аплату за класнае кіраўніцтва.

Атрымліваецца, што майстар і класны кіраўнік караюцца змяншэннем прэміі за тое, што падлетка кепска выхоўвалі ў сям'і, у школе, у грамадстве — які ў іх пасля гэтага можа быць настрой на працу, калі ўсе іншыя добрыя справы, ужо зробленыя імі раней, проста перакрэсліваюцца?

На маю думку, ёсць праблемы і ў набыцці навучэнцамі прафесій — бо дзе дзяўчыне магчыма працаўладкавацца, атрымаўшы спецыяльнасць повара? Усе сталоўкі ў сельскай мясцовасці зачынены, застаюцца толькі прадпрыемствы грамадскага харчавання ў раённых цэнтрах. У той жа час, напрыклад, у Бялынічах, працуюць пяць будаўнічых арганізацый, дарэчы, ёсць такія арганізацыі ва ўсіх раённых цэнтрах. На маю думку, трэба асвойваць новыя прафесіі, напрыклад, "муляра-тынкоўшчыка". Гэта вырашыць праблемы не толькі набору навучэнцаў, але і кадраў для будаўнічых арганізацый, будуць улічвацца і інтарэсы мясцовай моладзі.

У Магілёўскай вобласці распрацавана абласная праграма "Кадры", якая прадугледжвае мэтанакіраваную работу па бесперапыннай прафесійнай адукацыі інжынерна-педагагічных работнікаў. ВМЦ прафадукацыі арганізоўвае працу па павышэнні кваліфікацыі і перападрыхтоўцы інжынерна-педагагічных работнікаў. Але і ў гэтай справе ёсць свая праблема.

Папярэдняя плата камандзіровачным не робіцца. Больш таго, ці нармальна гэта, калі педагог быў у камандзіроўцы ў сакавіку, а грошы атрымаў у ліпені?

Востра стаіць праблема несвоечасовай выплаты заработной платы, адпускных, нізкіх заробкаў выкладчыкаў і майстроў.

Адной з асноўных умоў паспяховага ажыццяўлення адукацыйнага працэсу з'яўляецца забеспячэнне навучэнцаў і педагогаў сродкамі навучання, у першую чаргу падручнікамі, якія адпавядаюць сучасным патрабаванням.

Але ж ці гэта справа, калі ў нашым ПТВ няма ніводнай карты па гісторыі Беларусі, поўнасцю адсутнічаюць карты па гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў, адсутнічаюць контурныя карты, не працуюць сродкі тэхнічнага навучання, не дайшлі падручнікі па гісторыі Беларусі за 10 клас (першы курс), не хапае падручнікаў па іншых прадметах?

Пра якія інавацыйныя тэхналогіі, што ў большасці разлічаны на самастойную працу навучэнцаў, можна весці гаворку, калі няма самага неабходнага?

Вострай праблемай з'яўляецца праблема рамонту кабінетаў, бо сродкі на гэта не выдзяляюцца. А што рабіць, калі струхлелі ўваходныя дзверы, аконныя рамы, падаконнікі, працякае столь, з-за сырасці адстаюць шпалеры, а падлога і вокны ўжо колькі гадоў не фарбаваліся? Няўжо трэба збіраць грошы з навучэнцаў або выкладваць з кішэні месячную заработную плату?

Выказваю спадзяванне, што гэтыя праблемы будуць вырашацца.

**Анатоль МАРОЗАЎ, выкладчык гісторыі Бялыніцкага ПТВ № 217.**



Агракамбінат "Ждановічы", размешчаны ў прыгарадзе беларускай сталіцы, першым на Міншчыне сабраў ураджай збожжавых. На плошчы ў тысячу гектараў у гаспадарцы намалочана 5,2 тысячы тон збожжа. 12 жніўня адбылося традыцыйнае свята "Дажынкі-2001".

Гэтыя дажынкі — "першая ластаўка" ў абласным маштабе. Упершыню на ждановіцкіх дажынках кожны з дзевяці лепшых экіпажаў камбайнаў атрымаў прэміі аблвыканкама ў памеры мільёна рублёў.

НА ЗДЫМКУ: каравай новага ўраджаю — удзельнікам свята.

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ, БЕЛТА.**

Абітурыент–2001

## Ёсць попыт — ёсць і прапанова

***Мінскі дзяржаўны педагагічны каледж № 1 — навучальная ўстанова ў сістэме бесперапыннай прафесійнай адукацыі, якая дае паглыбленую сярэднюю спецыяльную адукацыю, інтэграваную з агульнай сярэдняй і вышэйшай.***

Педагагічны каледж ужо выпусціў не адну сотню прафесійных настаўнікаў (функцыянуе з 1983 года), якія працуюць у школах Мінска і Мінскага раёна. Сёлета жадаючых стаць навучэнцамі каледжа дастаткова: на 365 запланаваных месцаў пададзена 1321 заява. Педагагічны каледж № 1 рыхтуе спецыялістаў па пяці спецыяльнасцях. На грунце базавай адукацыі — "Педагогіка і методыка пачатковага навучання" (са спецыялізацыямі: "Кіраўнік гуртка народных мастацкіх промыслаў"; "Кіраўнік гуртка дзіцячай выяўленчай творчасці"; "Кіраўнік дзіцячага харэаграфічнага калектыву"; "Педагог-арганізатар выхаваўчай работы") і "Пазашкольная і пазакласная выхаваўчая работа ў школах для дзяцей з недахопамі слыху" (са спецыялізацыяй "Арганізацыя творчай дзейнасці"). На аснове агульнай сярэдняй адукацыі абітурыент мае магчымасць паступаць на тры спецыяльнасці: "Выкладанне ў пачатковых класах" (спецыялізацыя "Выкладанне замежнай мовы"), "Выкладанне беларускай мовы і літаратуры" (спецыялізацыя "Кіраўнік гуртка народных мастацкіх промыслаў"), "Выкладанне замежнай мовы". Але з гэтага года на спецыяльнасць "Выкладанне замежнай мовы" ўпершыню быў аб'яўлены набор абітурыентаў, якія скончылі базавую школу. Новаўвядзенне пракаментавала дырэктар педагагічнага каледжа № 1 Надзея Іванаўна Меньшчыкава:

*— Распрацаваны новыя вучэбныя планы і праграмы, якія дадуць магчымасць навучацца па гэтай спецыяльнасці выпускнікам базавых школ. Практыка паказала, што жадаючых вельмі шмат. Былі прэтэнзіі з боку насельніцтва: чаму магчымасць атрымліваць такую спецыяльнасць ёсць толькі ў абітурыентаў, якія скончылі сярэднюю школу? Конкурс на спецыяльнасць "Выкладанне ў пачатковых класах" са спецыялізацыяй "Выкладанне замежнай мовы" на аснове базавай адукацыі склаў 2,8 чалавека на месца.*

Самы высокі конкурс на тыя спецыяльнасці, што звязаны з замежнай мовай, асабліва на "Выкладанне замежнай мовы": англійская мова — 5,5 чалавека, нямецкая — 4,4. У мінулым годзе на гэтую спецыяльнасць конкурсы складалі 5,3 і 2,4 чалавека адпаведна. Не карыстаецца попытам сярод абітурыентаў спецыяльнасць "Пазашкольная і пазакласная выхаваўчая работа ў школах для дзяцей з недахопамі слыху". Па-першае, гэта тлумачыцца спецыфічнасцю гэтай спецыяльнасці, і не кожны зможа працаваць з такімі дзецьмі. Па-другое, па выніках сёлетняга размеркавання стаў відавочным той факт, што выпускнікі каледжа з гэтай спецыяльнасцю застаюцца незапатрабаванымі.

Згодна з правіламі прыёму ў ССНУ, захоўваюцца ільготы для медалістаў, а таксама выпускнікоў ПТВ, якія атрымалі дыплом з адзнакай, калі ў мінулым годзе на спецыяльнасць конкурс складаў менш чым пяць чалавек на месца. Сёлета медалісты не маюць ільготы пры паступленні ў каледж толькі на адну спецыяльнасць "Выкладанне замежнай мовы", конкурс на якую ў мінулым годзе быў 5,3 чалавека.

У педагагічным каледжы, як правіла, здаюцца два экзамены, а якія — гэта ўжо залежыць ад спецыяльнасці. Пры паступленні на спецыяльнасць "Педагогіка і методыка пачатковага навучання" пішуць дыктоўку на беларускай або рускай мовах і здаюць матэматыку вусна. На спецыяльнасць "Выкладанне замежнай мовы" таксама пішуць дыктоўку (на выбар) і здаюць замежную мову; на спецыяльнасць "Выкладанне беларускай мовы і літаратуры" пішацца дыктоўка, зразумела, толькі па беларускай мове, і абітурыенты здаюць экзамен па беларускай мове і літаратуры вусна. І пры паступленні на спецыяльнасць "Пазашкольная і пазакласная выхаваўчая работа ў школах для дзяцей з недахопамі слыху" здаецца матэматыка вусна, пішацца пераказ па рускай мове. Што датычыцца падрыхтоўкі абітурыентаў, то яна розная:

*— У сярэднім у дзень экзамены здаюць восем груп (25-30 чалавек), — гаворыць Надзея Іванаўна. — Дзень на дзень не прыходзіцца. Напрыклад, у першы дзень здачы экзаменаў у адной групе, якая пісала дыктоўку, былі толькі тры нездавальняючыя адзнакі. А вось потым у другой групе 26 чалавек атрымалі двойкі і толькі два — станоўчыя адзнакі. Гэта стыхійны працэс: нешта залежыць ад складу групы, нешта — ад тэксту (тэкст падбіраецца выкладчыкамі каледжа). Матэматыку здаюць лепш. Калі казаць пра агульную карціну, то на сённяшні дзень па матэматыцы атрымалі нездавальняюча толькі 19 чалавек. Што да медалістаў, то, на жаль, яны не апраўдваюць свае веды. Да нас прыйшло вельмі шмат медалістаў, асабліва пасля залічэння ў ВНУ, і пакуль толькі адзін пацвердзіў свой медаль.*

У каледжы працуе камісія па кантролі за ўступнымі экзаменамі, якая не толькі назірае, але і прымае актыўны ўдзел у працэсе ацэнкі ведаў абітурыентаў. Веды ацэньваюцца па шасцібальнай сістэме (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5). Міністэрства адукацыі распрацавала крытэрыі ацэнкі ведаў па кожным прадмеце, вынесеным на ўступны экзамен. Але спрэчкі ўсё ж узнікаюць, асабліва пры праверцы дыктовак, бо існуюць варыянты пастаноўкі знакаў прыпынку. Па словах Н.І.Меньшчыкавай, з боку абітурыентаў і іх бацькоў скаргі паступалі толькі ў вуснай форме. На ўсе пытанні былі дадзены адказы.

Выпускнікі педагагічнага каледжа маюць некаторыя льготы пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М.Танка і Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, з якімі каледж заключыў дагаворы па бесперапыннай падрыхтоўцы педагагічных кадраў. Выпускнікі, якія скончылі каледж з дыпломам з адзнакай або маюць у ім адзнакі "4" і "5" па выніках субяседавання (у БДПУ імя М.Танка) ці сумешчанага экзамену, выпускнога і ўступнага адначасова (у МДЛУ), могуць быць залічаны адразу на 3 курс на адпаведныя спецыяльнасці.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: уступныя экзамены ў Мінскім дзяржаўным педагагічным каледжы № 1.

**Фота Таццяны ГАЦУРА.**





Лета–2001

## Мядзел праводзіць гасцей

### У сем'ях настаўнікаў адпачывалі дзеці з Гомельшчыны

***Лагодна плёскае ля ног вада, што доўжыцца і доўжыцца пад тваім здзіўленым позіркам. Недзе ў далечыні, ахінутай ліловай смугой, яна сутыкаецца з гарызонтам — ледзь прыкметнай палоскаю лесу, праз якую пераліваецца проста ў нябёсы. Глядзіш — і не верыш, што ты не на нейкім даражэзным замежным курорце (напрыклад, у Швейцарыі), а ў сябе дома. Гэта — нашая Нарач.***

Дарэчы, адпачынак тут танным таксама назваць нельга: за жыллё турысты плацяць часам больш, чым на крымскім курорце. Але трыццаці пяці школьнікам з Калінкавіцкага раёна вельмі пашанцавала: яны адпачывалі тут бясплатна ў гасцінных сем'ях мясцовых жыхароў.

Такая форма аздараўлення дзяцей — зусім новая для нашай краіны. Пачынальнікам гэтай цудоўнай традыцыі сталі Беларускі дзіцячы фонд, "Народная газета" і Міністэрства адукацыі. У межах дабрачыннай акцыі "Падорым дзятве сонца" першапачаткова планавалася аздараўляць у беларускіх сем'ях дзяцей-сірот з дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, з апякунскіх сем'яў, а зараз да гэтага спісу далучаны дзеці з сем'яў сацыяльна неабароненых, няпоўных, чарнобыльцаў, а таксама таленавітыя дзеці.

У маі гэтага года прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, старшыня Мядзельскага райвыканкама Станіслаў Чарнушэвіч і старшыня Калінкавіцкага райвыканкама Віктар Піліпец сустрэліся, каб дамовіцца аб супрацоўніцтве раёнаў у аздараўленні дзяцей. Адразу ж пачалася падрыхтоўка: работнікі сферы адукацыі Мядзельшчыны на чале са Святланай Суханскай, загадчыцай аддзела адукацыі мясцовага райвыканкама, пачалі вывучаць побытавыя ўмовы сем'яў, узаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі, водгукі адносна працы. У выніку было адабрана 25 сем'яў (16 з іх — настаўніцкія), якія змаглі прыняць у сябе на 20 дзён школьнікаў з забруджанай радыяцыяй Гомельшчыны. Хутка прабеглі дні... І вось адпачынак калінкавіцкіх дзяцей на Нарачы падышоў да заканчэння. Загарэлыя хлопчыкі і дзяўчынкі ад'язджаюць да мам і татаў.

Які ж ён, першы вопыт? Якія ўражанні? Што атрымалася з гэтай задумы?

— Мы прыйшлі да высновы, — кажа Святлана Суханская, загадчыца Мядзельскага РАА, якая пастаянна назірала за адпачынкам школьнікаў, — што такі спосаб аздараўлення апраўдвае сябе. Ён больш танны, чым паездка за мяжу. Да таго ж, лягчэй праходзіць псіхалагічная адаптацыя дзіцяці. Тут — тая ж мова, уклад жыцця, гаспадарка. Таму можна гаварыць пра станоўчыя вынікі. Спадзяемся, што працяг будзе.

Добрыя водгукі былі і ад іншых арганізатараў мерапрыемства. Але каб атрымаць поўнае ўяўленне пра сітуацыю, трэба ведаць, як яна выглядае, як кажуць, знутры. Што думаюць пра гэта бацькі тых сем'яў, якія прынялі гасцей? Чаму яны вырашылі ўзяць хлопчыкаў і дзяўчынак да сябе, ці мелі клопат з імі? Як праводзілі час?

**Раіса Русак, настаўніца фізікі Лук'янаўскай базавай школы, выхоўвае чацвярых дзяцей: дзвюх сваіх дачок і двух пляменнікаў, маці якіх загінула:**

— Час прайшоў вельмі хутка. Я думала, будуць нейкія цяжкасці, але ж мы з імі не сутыкнуліся.

Дзяўчынка Ганна ўвайшла ў нашу сям'ю, нібыта заўсёды тут і жыла. Мы прызвычаіліся, што ў нашым доме шумна, весела. Канешне, цяпер прымаць дзіця нялёгка: больш клопатаў, вялікая адказнасць. Але, я лічу, калі ёсць магчымасць, трэба чужой бядзе дапамагчы, пакуль сам не апынуўся ў такім становішчы. У жыцці ўсяляк бывае...

**Ганна Малько, настаўніца пачатковых класаў мядзельскай сярэдняй школы № 1:**

— У мяне адпачывалі разам мая ўнучка і дзяўчынка Аліна з Гомельшчыны. Вядома, мы стараліся, каб харчаванне было вельмі добрым, каб заўсёды была садавіна. Хадзілі на возера купацца, катацца на катамаране. Хацелася стварыць па магчымасці лепшыя ўмовы. Чаму ўзяла Аліну да сябе, пытаецеся? Месца ў нас — прыгожае, свежае паветра, вада. Хай, думаю, дзіця адпачне. Ды і ўнучцы весялей. Дзецям тут добра.

**Валянціна Гардзіенка, настаўніца пачатковых класаў Лук'янаўскай базавай школы, маці траіх дзяцей:**

— Адразу, як толькі я пачула пра гэтую акцыю, у мяне нават пытанняў ніякіх не ўзнікла. Я была ўпэўнена: толькі браць. Хатнія ўмовы ў мяне дазваляюць прыняць двух дзяцей, ёсць час займацца імі. У 1986 годзе, калі здарылася чарнобыльская аварыя, мы прыехалі з забруджанай зоны сюды. Як жа я магла не дапамагчы землякам? Я лічу, акцыю трэба абавязкова працягваць. Дзяўчынкам, што былі ў мяне, я сказала, каб абавязкова прыязджалі летам да мяне зноў.

У агульную праграму адпачынку дзяцей уваходзілі экскурсіі па маляўнічых нарачанскіх мясцінах, паездка ў Нацыянальны парк "Блакітныя азёры", наведванне музеяў.

А што ж думаюць самі хлопчыкі і дзяўчынкі? Яны саромеюцца, таму — нешматслоўныя. На мае пытанні пра адпачынак на Нарачы адказваюць — "добра", "спадабалася". Дарослыя кажуць, што многія з іх спачатку плакалі, тэлефанавалі дадому. Трэба разумець, што дзіця, якія б умовы яму ні стварылі, заўсёды сумуе без бацькоў. Але ж хутка слёзы высахлі. Дзеці прызнаюцца, што калі будзе магчымасць, дык наступным летам зноў прыедуць сюды.

Сем'і, у якіх жылі школьнікі, атрымалі грашовую кампенсацыю — 1668-1815 рублёў у суткі ў залежнасці ад узросту дзіцяці. Няшмат, але ніхто тут грошы не падлічваў, многія нават і не ведалі, што будуць нешта плаціць. Час зараз нялёгкі. Нечым дапамагла дзяржава, нечым — сем'і, вось школьнікі і адпачылі. "У гэтым праекце ўсё трымаецца на ўзаемаразуменні і ўзаемападтрымцы", — адзначыла Лідзія Літвіновіч, прадстаўнік Беларускага дзіцячага фонду. Што ж, гэта вельмі трывалы падмурак. У добры шлях!

**Вольга ЗАЙКІНА.**

Свет людзей

*Уся кар'ера Мікалая Цімафеевіча Вараб'ёва звязана з Віцебскім дзяржаўным універсітэтам імя Машэрава. Ён выпускнік гэтай ВНУ, а цяпер загадвае тут кафедрай алгебры і методыкі выкладання матэматыкі. Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар матэматыкі. Яго прозвішча стаіць на вокладках новага цыкла падручнікаў для паглыбленага вывучэння матэматыкі ў агульнаадукацыйных школах Беларусі. У 8-9 класах — гэта "Алгебра", у 10-11 — "Алгебра і асновы аналізу".*



Мікалай ВАРАБ'ЁЎ:

# "Для матэматыкі няма правінцыі"

Стварэнне падручнікаў — праца карпатлівая. А ў гэтым выпадку ўпершыню на тэрыторыі былога Саюза ажыццёўлена спроба зрабіць іх адносна нескладанымі і папулярнымі, даступнымі для школьнікаў. Аўтары, у ліку якіх прафесар Вараб'ёў, змясцілі ў выданнях практыкумы па рашэнні задач — нешта накшталт матэматычнай мазаікі, для прывабнасці, ні на ёту не адступіўшы ад патрабаванняў строга матэматычных. Падручнікі шматузроўневыя, разлічаныя як на сярэдняга вучня, так і на здольнага, захопленага матэматыкай.

Яны прайшлі сур'ёзную апрабацыю ў школах рэспублікі, неблагія водгукі аб іх у Расіі і Польшчы. З улікам заўваг школьных настаўнікаў, спецыялістаў па методыцы выкладання ўжо зроблены адпаведныя перапрацоўкі. Выпускаюцца падручнікі выдавецтвам "Народная асвета" ў Мінску на беларускай і рускай мовах. Паспяхова вытрымалі два выданні. Наклад немаленькі, аднак у свабодным продажы няма, бо на іх вялікі попыт.

Мікалай Цімафеевіч гаворыць, што поспех забяспечылі як школьныя настаўнікі, якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы падручнікаў, так і яго універсітэцкія калегі: К.Ананчанка, Н.Бальшакоў, Е.Карабёнак, І.Таўгень (цяпер рэктар ІПК работнікаў адукацыі ў Мінску) і іншыя.

Да гэтага прафесар Вараб'ёў працаваў у Зеленагурскім універсітэце. З дырэктарам тамтэйшага інстытута матэматыкі Аляксандрам Грытчуком яны стварылі некалькі ўдалых дапаможнікаў для ВНУ. Гэтыя дапаможнікі звязаны з укараненнем пэўнага раздзела матэматыкі ў курс алгебры, перакладзены на англійскую мову, выкарыстоўваліся ў нас і ў Польшчы. Імі зацікавіліся венгерскія і кітайскія матэматыкі.

Ведаюць нашага земляка і ў Аўстраліі. У прыватнасці, ён вырашыў дзве праблемы знакамітага матэматыка Ханса Лауша з універсітэта штата Вікторыя, кіраўніка аддзела ў вядомым матэматычным часопісе. Ёсць кантакты з нямецкімі калегамі ва універсітэтах Майнца і Вюрцбурга. У Германіі дысертацыя Вараб'ёва была рэкамендавана да прысуджэння ёй вышэйшай ступені.

— Глыбока перакананы, што ўзровень фундаментальнай навукі матэматыкі і нашай матэматычнай адукацыі значна вышэйшы, чым за мяжой. Выключаючы толькі некаторыя элітныя універсітэты (з такім перакананнем выкладае ў правінцыйнай беларускай ВНУ Мікалай Вараб'ёў). Нават Джордж Сорас прызнаў, што ЗША, увесь Захад адсталі, і цяпер нашу мадэль адукацыі спрабуюць укараніць у сябе.

Што гэта сапраўды так, пацвярджае і членства нашага земляка ў Амерыканскім матэматычным таварыстве і ў савеце па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый пры Гомельскім універсітэце.

Віцебск.

**Г.ШПАКОЎСКАЯ.**
**("Народнае слова").**

Абітурыент XXI стагоддзя

# Якой пробы метал

***...Калісьці школьнага медаліста лічылі чалавекам, жыццё якога пакоціцца без перашкод па гладкай дарожцы. Яму зайздросцілі тыя, хто на ўзнагароду гэтую "не пацягнуў". Здавалася, што гэта пра "залатых" і "сярэбраных" выпускнікоў напісалі песню з аптымістычным тэкстам: "Усе шляхі адкрыты маладым..." Сапраўды, так яно і было.***

Рызыкуючы паўтарыцца, заўважым, што ў кожнага часу — свае песні. Бясспрэчную ісціну гэтую спасцігаеш яшчэ раз, седзячы на пасяджэнні прыёмнай камісіі тэхнічнага універсітэта. З пачатку барацьбы за месца ў яго аўдыторыях пайшоў дзевяты дзень. І толькі тады рэктар Уладзімір Фёдараў, першы прарэктар Пётр Пойта, сакратар камісіі Іван Сыраквашка і дэканы факультэтаў атрымалі магчымасць правесці залічэнне медалістаў. Чаму? Сёння метал школьнай узнагароды не тое каб пацьмянеў, але, даючы шанц яе ўладальніку — не дае гарантыі. Дзве лічбы па-свойму гавораць пра напал сітуацыі. Бюджэтных месцаў — 500, медалістаў — 293. У параўнанні з мінулым годам іх колькасць павялічылася ў чатыры разы. Дарэчы, агульны конкурс складае 3,11 — самы вялікі за ўсю гісторыю ВНУ.

А галоўнае — адны спецыяльнасці запатрабавалі ад уладальнікаў медалёў толькі гутаркі, другія — здачы аднаго экзамену, трэція — двух. Апошняе, па сутнасці, азначае, што выдатнікі здаюць экзамены, як усе простыя смяротныя. Але калі хто-небудзь палічыць, што гутарка — гэта, маўляў, дробязі жыцця, няхай ён так не думае. Адзінаццаць выпускнікоў-выдатнікаў спатыкнуліся менавіта на гэтым этапе ўступных іспытаў. Тыя, хто прайшоў яго, змогуць вучыцца па спецыяльнасці "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва", "Будаўніцтва дарог і транспартных аб'ектаў", "Вытворчасць будаўнічых вырабаў і канструкцый" і "Меліярацыя і водная гаспадарка".

Упэўнена даказалі каштоўнасць сваіх "выдатна" на экзамене па матэматыцы толькі пяць медалістаў з дзесяці, якія паступалі на спецыяльнасць эксплутацыя транспартных сродкаў. Тэхналогіяй машынабудавання змогуць займацца тры з дзесятка прэтэндэнтаў, на водазабеспячэнне, водаадвядзенне і ачыстку вод залічаны васемнаццаць абітурыентаў з трыццаці, а на аўтаматызацыю тэхналагічных працэсаў не трапіў толькі адзін медаліст з пяці.

Бар'ер вышынёй у два прадметы адолець без сучка і задзірынкі аказалася цяжэй. Фізіку і матэматыку, напрыклад, з чатырнаццаці чалавек, якія вырашылі заняцца вылічальнымі машынамі, на "выдатна" здалі толькі двое ўзнагароджаных. Тым больш радуе поспех васьмёркі будучых архітэктараў: і маляванне, і чарчэнне ўсе яны прайшлі без страт, атрымаўшы заслужаныя пяцёркі.

Што да маладых людзей, якія выбралі эканамічныя спецыяльнасці, у прыватнасці "Сусветную эканоміку", ім трэба будзе вытрымаць іспыты ведаў і духу падчас здачы матэматыкі, роднай і замежнай мовы.

"Медальная" тэма — своеасаблівы пралог да размовы пра веды юнакоў і дзяўчат увогуле. "Двойкі" вучняў ніколі не могуць радаваць настаўніка ці то базавай, ці то сярэдняй або вышэйшай школы. Дэканы лічаць, што агульны фон падрыхтоўкі дастаткова моцны, асабліва ў ліцэістаў і гімназістаў. Але, на жаль, ёсць у экзаменацыйных лістах абітурыентаў і "нездавальняюча".

Дзве гадзіны ў дзень — з трох да пяці — абітурыенты (або іх бацькі) маглі прыйсці і пагледзець свае экзаменацыйныя работы. І — пачуць каментарый выкладчыка. Дзесяткі юнакоў і дзяўчат скарысталіся гэтым правам. Але апеляцый пададзена да гэтага часу толькі дзве.

Восем гадоў запар тут паранейшаму захоўваюцца ўсё тыя ж пяцьсот бюджэтных месцаў. Але павялічваецца кантынгент абітурыентаў, паяўляюцца новыя спецыяльнасці. Карціна ў цэлым стане больш выразнай, калі будуць прадстаўлены арыгіналы атэстатаў. Бо цяпер каля сарака працэнтаў дакументаў — копіі.

Брэст.

**Ада АРХІПАВА.**
**("Заря").**



На палях рэспублікі ідзе збор збожжа сёлетняга багатага ўраджаю, а вучоныя-раслінаводы закладваюць аснову для будучага. На палях Гомельскай абласной доследнай сельскагаспадарчай станцыі ў гэтым годзе на кожным з 19 гектараў вырашчана па 34 цэнтнеры азімай пшаніцы гатунку "Капылянка". Пяты год засяваюць тут гэты гатунак, і нязменна ён аказваецца самым ураддлівым. Не выпадкова гаспадаркі вобласці закупляюць на насенне менавіта "Капылянку". Вось і сёлета ўсё збожжа новага ўраджаю пасля сушкі і неабходнай дапрацоўкі будзе адпраўлена на эксперыментальныя базы, у насенныя гаспадаркі, калгасы і саўгасы вобласці. Няхай пашыраецца плошча высокаўрадлівых пасеваў, няхай поўняцца засекі адборным збожжам.

НА ЗДЫМКУ: начальнік Гомельскага аблсельгаспрода Міхаіл Касюкоў і навуковы супрацоўнік доследнай станцыі Уладзімір Філіпчанка на плантацыі азімай пшаніцы.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

"Круглы стол"

# Школа напярэдадні верасня

***Першы навучальны год новага тысячагоддзя ўжо праз месяц пачне адлік. Агульнаадукацыйная школа, як заўсёды, рыхтуецца прыняць у свае сцены шматлікую вучнёўскую сям'ю. У школы Гродзеншчыны, па папярэдніх звестках, прыйдуць каля 183 тысяч вучняў, з іх 13,5 тысячы дзяцей-шасцігодак.***

ОРГАНЫ адукацыі, адміністрацыі школ цяпер заняты вырашэннем няпростых задач падрыхтоўкі навучальных устаноў да 1 верасня. Аднак разам з добраўпарадкаваннем, бягучым рамонтам, іншымі побытавымі праблемамі педагогаў, безумоўна, турбуюць важнейшыя пытанні адукацыйнага працэсу. Гэта дашкольнае выхаванне і адаптацыя дзяцей да школы, пераемнасць адукацыі і ўдасканаленне рознаўзроўневай сістэмы, профільнае навучанне і рэальныя магчымасці школы сёння, а таксама — многае-многае іншае, пра што і ішла гаворка на сустрэчы, арганізаванай "Гродзенскай праўдай". У сустрэчы прынялі ўдзел начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Уладзімір Антонавіч Гаўрон, кіраўнікі школы-гімназіі № 30 Валянціна Сцяпанаўна Макарава і сярэдняй школы № 9 Аляксандр Іванавіч Шаўчэнка, метадысты Гродзенскага гарадскога ўпраўлення адукацыі Гелена Уладзіміраўна Гражынская, Ленінскага РАА Святлана Андрэеўна Мялешка, Кастрычніцкага РАА Хрысціна Вікенцьеўна Таўрэль, іншыя спецыялісты органаў адукацыі.

**У.А.Гаўрон:** — Кожная школа вобласці, як ні цяжка ідзе падрыхтоўка да новага навучальнага года, расчыніць свае дзверы перад вучнямі. Намаганнямі органаў адукацыі, педагагічных калектываў, бацькоў, шэфскіх арганізацый і прадпрыемстваў усе навучальныя ўстановы арганізавана пачнуць навучальны год. Чатыры гімназіі і тры ліцэі вобласці — новыя тыпы навучальных устаноў, дзе прадоўжыць або пачнуць вучобу найбольш адораныя і таленавітыя дзеці Гродзеншчыны. Па выніках работы мінулага года можна сказаць, што і гімназіі, і ліцэі адпавядаюць сваім назвам. Асабліва прыемна ў гэтай сувязі гаварыць пра лепшых выхаванцаў, якія бліскуча праявілі сябе на абласных, рэспубліканскіх і нават міжнародных алімпіядах. Пераможцай міжнароднай алімпіяды па рускай мове, у якой прынялі ўдзел дзеці 41 краіны свету, стала выпускніца гімназіі горада Ліды Каця Хальпукова. Добрых слоў заслугоўвае і школа-гімназія № 30 Гродна, і школа-ліцэй № 1 абласнога цэнтра. Высокія вынікі атэстацыі, падагульняючых кантрольных работ яскрава сведчаць аб прафесіяналізме педагогаў.

**Кар.: — Уладзімір Антонавіч, пагадзіцеся, здольнасці вучняў намнога прасцей развіваць педагогам, якія працуюць у гарадскіх школах. Але і на сяле ёсць зорачкі, самародкі, якім неабходна дапамога.**

**У.А.Гаўрон:** — Профільныя класы, класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў ёсць у школах раённых цэнтраў і ў буйных сельскіх школах. Асобныя раёны, напрыклад, Карэлічы, ідуць іншым шляхам: каб адкрыць профільныя, ліцэйскія класы для сяльчан, яны цяпер актыўна рэстаўруюць інтэрнат, у якім і будуць жыць адораныя дзеці з вёсак. Такі вопыт ужо апрабіраваны ў Шчучынскім раёне. Пра тое ж, што ў нас ёсць і абласныя класы, якія вось ужо некалькі гадоў паспяхова дзейнічаюць, думаю, ведаюць усе педагогі сельскіх школ, зацікаўленыя бацькі і іх дзеці.

**Кар.: — Відавочна, наколькі сур'ёзна і адказна маладое пакаленне імкнецца да глыбокіх ведаў. Цікавасць да вучобы праяўляюць і зусім маленькія дзеці — шмат у чым гэта заслуга бацькоў, але, напэўна, у большай ступені — дашкольнай установы, дзе працуюць творчыя, таленавітыя педагогі?**

**С.А.Мялешка:** — Цяпер кожная дашкольная ўстанова мае права выбраць праграму, па якой будзе працаваць з дзецьмі. Абноўлены варыянт праграмы "Пралеска", які быў апрабіраваны ў мінулым навучальным годзе, галоўнай абавязковай умовай вызначыў фарміраванне ў дзіцяці прадметна-развіццёвага акружэння. Гэтае прадметна-развіццёвае акружэнне якраз і дае дзіцяці магчымасць выбару таго, што яму найбольш блізка. "Пралеска", можна сказаць, адпавядае патрабаванням часу, але праблема тут з фінансаваннем. Хаця і органы адукацыі, і калектывы дашкольных устаноў, і бацькі — за што ім вялікі дзякуй — агульнымі намаганнямі стараюцца шукаць і знаходзяць магчымасць набыць неабходны прадметна-развіццёвы матэрыял.

У Ленінскім раёне Гродна дзейнічаюць пяць эксперыментальных пляцовак у дашкольных установах, дзве з іх — рэспубліканскія, дзе ўкараняюцца новыя тэхналогіі і методыкі. Дзіцячы сад № 11 яшчэ ў 96-м годзе пачаў работу па праграме "Першы крок". Сумесная дзейнасць педагогаў, бацькоў, памочнікаў выхавацеляў дае добрыя вынікі. Тут варта сказаць і пра пераемнасць адукацыі, бо многія дзеці ў далейшым навучаюцца па праграме "Крок за крокам" у сярэдняй школе № 10. І ўвогуле, дзе паміж дашкольнай установай і школай існуюць шчыльныя сувязі, там і дзеці больш развітыя, разняволеныя, у іх больш высокі ўзровень лагічнага мыслення, ім проста камфортней жыць і вучыцца ў школе.

**Г.У.Гражынская:** — Абсалютная большасць дзяцей з жаданнем і цікавасцю бярэцца за вучобу. І каб цікавасць да ведаў не знікла, педагогі проста абавязаны ўважліва і цярпліва ставіцца да асобы дзіцяці, пастаянна назіраць за яго настроем, псіхалагічным станам.

**Х.В.Таўрэль:** — У Кастрычніцкім раёне паспяхова дзейнічае Цэнтр развіцця дзіцяці, дарэчы, такіх устаноў па рэспубліцы — усяго толькі чатыры. Індывідуальна-асобасны падыход дае выдатныя вынікі. Здольнасці дзяцей раскрываюцца ўжо на першых ступеньках навучання. Іх вучаць вучыцца і любіць гэты адзін з самых неабходных у жыцці заняткаў. Цэнтр працуе як адкрытая дашкольная ўстанова па пяці напрамках: дзеці, бацькі, супрацоўнікі, педагогі, грамадскасць. Такое ўзаемадзеянне ў соцыуме дапамагае дзецям лепш адаптавацца ў навакольным свеце.

Раскрыць здольнасці дзіцяці — адна з задач рэфармавання. І яна знаходзіць сваё развіццё ў пачатковай школе. З наступнага навучальнага года ў нас будуць працаваць і дзве раённыя эксперыментальныя пляцоўкі, накіраваныя на стварэнне ўмоў псіхолага-педагагічнага суправаджэння асобы дзіцяці.

**Кар.: — У школе-гімназіі № 30 — адной з прэстыжных навучальных устаноў горада — цікаўнаму, здольнаму дзіцяці прадастаўлена магчымасць ўжо на пачатковай ступені навучання развівацца рознабакова, творча.**

**В.С.Макарава:** — З прыступкі пачатковага звяна і сярэдняй школы ідзе агульнае развіццё дзіцяці. Акрамя таго, мы даем яшчэ прадметы гімназічнага кампанента, што дазваляе палепшыць успрыняцце дзіцем асобных прадметаў, якія ў агульнаадукацыйнай школе не вывучаюцца: тая ж замежная мова, этычная граматыка — у пачатковым звяне, этыка — у сярэднім. З другога класа ўсе дзеці выбіраюць у нас заняткі або музыкай, або танцамі, або выяўленчым мастацтвам. Пачынаць глыбей займацца матэматыкай, філалогіяй або іншай дысцыплінай, мне думаецца, на ступені сярэдняга звяна ранавата. Хаця жыццёвая практыка паказвае, што пачынаць з дзесятага класа паглыблена вывучаць якія-небудзь прадметы, магчыма, ужо і позна. 8-9 клас дае магчымасць вучню больш увагі ўдзяляць таму прадмету, які ён для сябе выбірае, у яго яшчэ ёсць час і памяняць сваё рашэнне. А ўжо на ліцэйскім узроўні — сапраўды рыхтаваць сябе да паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову па тым профілі, які ён выбраў.

**Кар.: — Паглыбленае вывучэнне замежных моў — надзённае патрабаванне часу. І ў многіх школах рэспублікі, вобласці, нашага горада замежная мова — прадмет, які пачынаюць вывучаць ужо ў пачатковай школе.**

**А.І.Шаўчэнка:** — Тры гады ў нашай школе з падрыхтоўчага класа вывучаецца замежная мова, і камплектуемся мы толькі ў рамках спецшколы. Хаця, у адрозненне ад сярэдніх школ № 10, 14, 15 Гродна, дзе спецыялізацыя ідзе на ўсіх ступенях, мы яшчэ — школа, якая становіцца на ногі. З 6-га класа ў нас уводзіцца дадатковая замежная мова па выбары — французская, нямецкая, польская. Цікавасць бацькоў, вучняў у гэтай сувязі да школы відавочная. Сёлета конкурс быў больш як два чалавекі на месца, а набіралі мы шэсць класаў, летась — гэткі ж конкурс, і гэта — нягледзячы на дэмаграфічны спад, пра які столькі гавораць.

**Кар.: — Яшчэ адным важным патрабаваннем сённяшняга дня з'яўляецца камп'ютэрызацыя школ. Распрацаваны праграмы, паэтапна, з улікам фінансавых магчымасцяў, ідзе іх укараненне.**

**А.І.Шаўчэнка:** — Гродзенская вобласць з'яўляецца базай камп'ютэрызацыі рэспублікі. Кастрычніцкі раён лічыцца ільготным па ўвядзенні камп'ютэрных тэхналогій у адукацыю, кіраванне. Шэраг школ у раёне працуе ў гэтым кірунку. Школа № 9 ужо другі год выкарыстоўвае камп'ютэрныя тэхналогіі ў навучанні. У гэтую сістэму мы ўключаем падрыхтоўчыя, другія, трэція, чацвёртыя, а з мінулага года — і пятыя класы. Матэматыку, замежную, рускую, беларускую мову дзеці вывучаюць з дапамогай камп'ютэра. Станоўчыя вынікі ёсць — і даволі адчувальныя. А вось забяспечанасць камп'ютэрамі, будзем гаварыць адкрыта, — недастатковая. Працуем у дзве змены з панядзелка да суботы ўключна. Мы выклікалі спецыялістаў з цэнтра гігіены, якія вымяралі ўсе параметры электрамагнітных выпраменьванняў камп'ютэраў. Выпраменьванне — нулявое, таму здароўю дзяцей у гэтым плане нішто не пагражае.

**Г.У.Гражынская:** — Калі мы ўжо закранулі пытанне здароўя, хочацца падзяліцца такой добрай для ўсіх інфармацыяй. З гэтага года ва ўсіх дашкольных установах заняткі фізкультурай будуць весці спецыялісты, у штатных раскладах з'явілася такая адзінка. Кадры таксама ёсць.

**Кар.: — Гаворачы пра матэрыяльную абсталяванасць навучальных устаноў, шмат добрых слоў выказвалі ўдзельнікі сустрэчы ў адрас шэфаў.**

**В.С.Макарава:** — Наша шэфскае прадпрыемства "Гродна энерга" вось ужо на працягу некалькіх гадоў аказвае школе-гімназіі адчувальную дапамогу, прычым — не толькі ў вучэбны час, але і ў канікулярны. Нашы педагогі маюць таксама цудоўную магчымасць адпачыць і падлячыцца ў санаторыі "Энергетык", куды штогод на працягу года адпраўляецца 10-15 настаўнікаў. Таму вялікі дзякуй усім шэфскім арганізацыям, якія адгукаюцца на нашы просьбы.

**У.А.Гаўрон:** — Дзеці, маладое пакаленне — наш заўтрашні дзень. Разумеючы, наколькі гэта сур'ёзныя, а не проста прыгожыя словы, усё грамадства павінна быць зацікаўлена ў іх адукацыі і выхаванні. Толькі сумеснымі намаганнямі дзяржаўных структур, грамадскасці, педагагічных калектываў школьнае рэфармаванне будзе паспяхова рухацца наперад. Напярэдадні новага навучальнага года і II Рэспубліканскага з'езда настаўнікаў хочацца сказаць добрыя словы ў адрас кожнага педагога, які добрасумленна і цярпліва выконвае свой прафесійны абавязак.

**Сустрэчу правяла**
**Жанна ЯНЧЭЎСКАЯ.**
**("Гродзенская праўда").**

Сітуацыя

# Інтэрнат па-студэнцку

***Не быў той студэнтам, хто не жыў у інтэрнаце — ёсць такое пашыранае меркаванне сярод моладзі. Інтэрнацкае жыццё — гэта быццам дадатковы прадмет, па якім даводзіцца здаваць экзамен: на цярплівасць, ужыўчывасць, шчодрасць, сумяшчальнасць, акуратнасць. І часта тыя, каго лёс звёў у адным пакоі, становяцца надоўга сябрамі або... ворагамі.***

Прытрымліваючыся згаданай мудрасці, магу сказаць, што студэнткай была. І пры ўсіх жахах інтэрнацкага жыцця, якімі палохаюць першакурснікаў і іх мам, магла б прывесці шэраг яго вартасцяў. Гэтыя самыя вартасці былі нават прадметам зайздрасці ў маіх сакурснікаў, карэнных мінчан. Многія з іх, спешчаныя маладыя людзі, перыядычна збягалі з дому ў інтэрнат, каб памарыць пад гітару ў цесным пакойчыку, і не адмаўляліся пакаштаваць "бульбу па-студэнцку" прама з патэльні.

Але не інтэрнацкая рамантыка стала прадметам абмеркавання спецыялістаў на пасяджэнні каардынацыйнага савета па справах моладзі гарвыканкама. Іх строгі позірк засяродзіўся, перш за ўсё, на інтэрнацкім побыце. Сапраўды, не думаеш пра рамантыку, калі ідзеш па доўгім калідоры, і практычна ля кожных дзвярэй — бляшанкі з акуркамі, а на сценках — сляды ад патушаных цыгарэт... Калі заходзіш на кухню і перад вачамі паўстае непрывабная карціна, стукаеш у пакой, а там, відавочна, не чакалі...

Пасяджэнне каардынацыйнага савета, на якім разглядалася гэтае пытанне, было падагульняючым. Рэйды праводзіліся яшчэ тады, калі студэнцтва не з'ехала на канікулы і праблема інтэрнатаў, як кажуць, была навідавоку. У тым, што яна існуе ў прынцыпе, сумнявацца не даводзіцца.

— Пытанне інтэрнатаў настолькі складанае, як само жыццё, — сказаў загадчык аддзела па справах моладзі і культуры адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Д.Д.Бязеда, — і нам неабходна сачыць за сітуацыяй. У раёне апошнія два гады, — адзначыў ён, — уважліва займаліся гэтай работай. У полі зроку, безумоўна, не толькі інтэрнаты студэнцкай і навучэнскай моладзі. Стварылі спецыяльную камісію па вывучэнні сітуацыі ў інтэрнатах, неаднаразова выносілі пытанне на выканкам. А фактурай служыла адзнятая апаратарам відэаплёнка.

Зрухі ў вырашэнні гэтай праблемы, па словах Д.Д.Бязеды, істотныя. Хаця, на яго думку, такая работа не мае канца. З лютага 2001 г. і пры аблвыканкаме таксама дзейнічае спецыяльная камісія, якая займаецца гэтай праблемай.

— Ёсць інтэрнаты з высокай культурай побыту, — сказаў начальнік абласной інспекцыі па справах непаўналетніх Я.І.Казак, які ўваходзіць у яе склад. — Але ў асноўным пры праверцы інтэрнатаў навучальных устаноў пабачылі жудасную карціну. І не толькі адсутнасць культуры побыту палохае. У адным з іх, размешчаным на вуліцы Даватара, скажам, пад маркай выхаваўчай работы вяла сваю прапаганду дэструктыўная секта. На яе сход якраз і трапілі правяраючыя.

Рэйды, якія арганізоўвалі супрацоўнікі аддзела па справах моладзі гарвыканкама, іншай карціны інтэрнатаў, на жаль, не малявалі. Хаця трэба адразу ж сказаць, што не ўсіх тычацца падобныя заўвагі. Меркаванні сышліся ў тым, што інтэрнаты, вартыя быць прыкладам для пераймання, маюць ВПВ хімічнай прамысловасці, кааператыўны тэхнікум і інш. І ўсё ж члены каардынацыйнага савета былі аднадушныя: "Пакідаць без кантролю маладзёжныя інтэрнаты нельга".

Цэлы пласт псіхалагічных праблем жыльцоў інтэрнатаў быў узняты дырэктарам гарадскога цэнтра сацыяльна-педагагічнай дапамогі моладзі А.Л.Філіповіч. Вытокі іх у тым, што там няма сацыяльна-псіхалагічнай службы. Некалькі гадзін на тыдзень рабоце ў інтэрнаце ўдзяляюць псіхолагі і сацыяльныя педагогі навучальных устаноў. Але гэтага, безумоўна, недастаткова. І пакуль, мяркуючы па ўсім, выйсця няма. Бо не хапае нават выхавацеляў, зарплата ў якіх каля 30 тыс. рублёў. І ўсё ж ёсць спецыялісты, на плечы якіх так ці інакш гэтыя абавязкі ўскладаюцца. Да іх і былі звернуты пажаданні Аліны Леанідаўны. Пры засяленні ў інтэрнаты неабходна праводзіць гутарку на сумяшчальнасць характараў з мэтай, каб людзі няўжыўчывыя не пасяляліся ў адным пакоі. Як паветра, у інтэрнаце патрэбны індывідуальныя, ананімныя кансультацыі з псіхолагам, іншымі спецыялістамі. Інтэрнат — гэта якраз тое месца, дзе можна і трэба праводзіць дашлюбную псіхалагічную асвету і г.д.

Пытанне толькі ў тым, дзе ўзяць сацыяльных педагогаў і псіхолагаў, якіх з-за нізкіх акладаў нават не хапае ў школах? Але гэта ўжо не пад сілу вырашыць каардынацыйнаму савету аддзела па справах моладзі гарвыканкама. На згаданай сустрэчы не проста ўзнялі праблему. Створана рабочая група, якая ў бліжэйшы час зоймецца абагульненнем сітуацыі ў інтэрнатах. Па выніках яе работы плануецца выдаць метадычныя рэкамендацыі для выхавацеляў, псіхолагаў, сацыяльных педагогаў. На шчасце, інтэрнацкія астраўкі, дзе ёсць месца і рамантыцы, і добраму побыту, куды заўсёды цягне зайсці, усё-такі ёсць.

**("Гродзенская праўда").**

**Старонка падрыхтавана па матэрыялах мясцовага друку.**

## Інструктыўна-метадычныя пісьмы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001 – 2002 навучальны год

# Гісторыя

У 2001-2002 навучальным годзе выкладанне гісторыі ў сярэдніх навучальных установах будзе ажыццяўляцца па праграмах для 5-11 класаў агульнаадукацыйных школ (Мінск, Навукова-метадычны цэнтр, 2000); у школах (класах) з паглыбленым і профільным вывучэннем гісторыі — па праграмах для 8-11 класаў (Мінск, 2000), якія дасланы ва ўпраўленні адукацыі аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама.

Падрыхтаваны і будуць выдадзены ў новым навучальным годзе наступныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі:

11 клас "Гісторыя Беларусі" пад рэдакцыяй М.С.Сташкевіча;

11 клас "Сусветная гісторыя" пад рэдакцыяй У.С.Кошалева;

11 клас "Гісторыя Беларусі" аўтара П.Ц.Петрыкава;

10 клас "Гісторыя Беларусі" пад рэдакцыяй Г.В.Штыхава, Г.Я.Галенчанкі, М.С.Сташкевіча.

Для 11-гадовай школы ў апошні час былі выдадзены наступныя вучэбныя дапаможнікі:

6 клас "Гісторыя Беларусі" Хрэстаматыя, калектыў аўтараў пад рэдакцыяй П.А.Лойкі;

10 клас "Гісторыя Беларусі" (схемы, табліцы, тэсты) калектыў аўтараў пад рэдакцыяй Г.В.Штыхава.

Рыхтуюцца да выдання:

6 клас "Рабочы сшытак па гісторыі сярэдніх вякоў"; аўтара В.Н.Сурты.

6 клас "Рабочы сшытак па гісторыі Беларусі" аўтара С.В.Панова;

6 клас "Кніга для чытання па гісторыі Беларусі ў сярэднія векі VI-XV стст", пад рэдакцыяй Г.В.Штыхава;

6 клас "Кніга для чытання па гісторыі сярэдніх вякоў" аўтара С.П.Лугаўцовай.

У зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (№ 4, 5 — 2000 г.) змешчаны пералік усіх падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, выдадзеных у апошнія гады і якімі неабходна карыстацца пры выкладанні гісторыі ў 11-гадовай школе. З 1998-1999 навучальнага года ў рэспубліцы вядзецца актыўная эксперыментальная работа на 20 эксперыментальных пляцоўках па апрабацыі новага вучэбна-метадычнага комплекса па гісторыі для дванаццацігадовай школы. У новы вучэбна-метадычны комплекс (ВМК) уваходзяць падручнікі, вучэбна-метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў (метадычныя распрацоўкі ўрокаў, кнігі для чытання, хрэстаматыі, рабочыя сшыткі, картаграфічныя сродкі, дыягнастычныя матэрыялы і г.д.) па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі. У гэтым годзе такі эксперымент пачнецца ў 8 класах. Вынікам эксперыментальнай работы настаўнікаў гісторыі па апрабацыі новага ВМК з'яўляецца яго дыягностыка і прапановы аўтарскага калектыву па перапрацоўцы матэрыялаў. Толькі пасля такой работы новыя ВМК будуць паступаць у дванаццацігадовую школу. Так адбудзецца ў новым навучальным годзе ў тых школах рэспублікі, у якія прыйдуць вучні пачатковых класаў трэцяй мадэлі. Яны будуць навучацца па новых базісных вучэбных планах для 12-гадовай школы, новых праграмах і падручніках. Для іх прадугледжана выданне падручнікаў па гісторыі старажытнага часу:

4 клас "Гісторыя старажытнага свету" пад рэдакцыяй У.С.Кошалева;

4 клас "Гісторыя Беларусі" пад рэдакцыяй Г.В.Штыхава;

4 клас "Гісторыя Беларусі" аўтара Э.І.Загарульскага.

Сетка гадзін у гэтых класах застаецца ранейшай:

34 гадзіны — па сусветнай гісторыі старажытнага часу;

17 гадзін — па гісторыі Беларусі старажытнага часу.

Праграмы для 4 і 5 класаў 12-гадовай школы надрукаваны ў НМЦэнтры ў 2000 г.

Звяртаем вашу ўвагу на адну недакладнасць у тлумачальнай запісцы па гісторыі (с. 111), на якой вызначаецца парадак вывучэння прадмета ў 12-гадовай школе (2001-2002 навучальны год). Сусветная гісторыя ва ўсіх класах базавай школы павінна выкладацца на працягу ўсяго года па адной гадзіне ў тыдзень (34 г.), гісторыя Беларусі таксама павінна выкладацца ва ўсіх класах базавай школы (за выключэннем 4 кл. — 17 г.) на працягу ўсяго года па адной гадзіне ў тыдзень (34 г.).

За курс базавай школы захоўваецца абавязковы вусны экзамен па гісторыі Беларусі.

За курс сярэдняй школы экзамен па гісторыі па-ранейшаму застаецца па выбары. Захаваецца такая форма экзамена, як абарона рэферата.

Звяртаем увагу настаўнікаў на асноўныя патрабаванні да напісання рэфератаў па гісторыі.

Пажадана выбіраць тэму, якая ўтрымлівае элементы навізны, патрабуе творчасці і дазваляе вучню выказаць сваё меркаванне па разглядаемым пытанні. Важна ўлічваць не толькі асабістыя інтарэсы вучня, але і ўзровень яго падрыхтоўкі, г.зн. рэальныя магчымасці. Не рэкамендуем выбіраць агульныя, даўно і добра распрацаваныя тэмы. Вучням неабходна азнаёміць з памяткай "як пісаць рэферат".

1. Вызначыць мэту напісання рэферта ў адпаведнасці з тэмай.
2. Саставіць план.
3. Пры азнаямленні з літаратурай вылучыць асноўныя ідэі, палажэнні, доказы, аргументы і вывады, каб засяродзіць на іх увагу.
4. Класіфіцыраваць выпіскі, якія былі зроблены пры азнаямленні з крыніцамі.
5. Прааналізаваць сабраны матэрыял, прадумаць і зрабіць абагульняючыя вывады.
6. Аформіць рэферат.

Прыкладная структура рэферата

1. План з указанем старонак, глаў і раздзелаў.
2. Абаснаванне выбару тэмы.
3. Характарыстыка асноўных пытанняў.
4. Вывады і заключэнне.
5. Спіс літаратуры.

Рэферат павінен быць змястоўным, лагічным, аргументаваным, адлюстроўваць пазіцыю аўтара, правільна афармлены (пранумераваны старонкі, тэкст павінен быць падзелены на лагічныя часткі — абзацы; абавязкова зноскі). Работа не павінна быць перагружана цытатамі, лічбамі, табліцамі.

На тытульным лісце ўказваюцца: тэма рэферата, прозвішча, імя аўтара, клас, школа, раён, прозвішча, імя, імя па бацьку настаўніка гісторыі, які ажыццяўляў навуковае кіраўніцтва.

Пры неабходнасці да рэферата афармляецца дадатак (дакументы, ілюстрацыі, табліцы, схемы і г.д.).

Аб'ём рэферата прыкладна 20-30 старонак машынапіснага тэксту. Рэферат рэкамендуецца здаць у канчатковым варыянце настаўніку гісторыі не пазней як за два тыдні да экзамена.

Абарона рэферата — гэта вуснае выступленне вучня, адказы на пытанні экзаменацыйнай камісіі. Вучань павінен паказаць узровень гістарычнай падрыхтоўкі, не толькі веды праблематыкі, але і арыентацыю ў змесце абранага напрамку.

Таму вывучэнне гісторыі ў старшых класах павінна быць падпарадкавана фарміраванню гістарычнага мыслення. Вывучэнне гісторыі неабходна будаваць на дасягнутых да гэтага часу выніках развіцця асобы вучня (фарміраванне вобразнага і лагічнага мыслення, уменне выдзяляць прычынна-выніковыя сувязі і г.д.), што дазваляе раскрыцца інтэлектуальнаму патэнцыялу старэйшых школьнікаў, праявіць самастойнасць мыслення праз пастаноўку і рашэнне гістарычных праблем.

Вучань сам фармулюе праблемы, прапануе аргументаваныя варыянты рашэння. На гэтым этапе праблемнасць павінна стаць асноўным элементам гістарычных курсаў, вызначаць як змест адукацыі, так і спосабы навучання.

Пры вывучэнні гісторыі, асабліва ў старшых класах, таксама вельмі важна ажыццяўляць паэтапнае навучанне школьнікаў рабоце з гістарычнымі крыніцамі: актавымі (граматы, законы, указы, дагаворы, праграмы, прамовы і інш.), апавядальна-апісальнымі (летапісы, хронікі, дзённікі, пісьмы, мемуары, апісанні падарожжаў і г.д.); мастацкага слова (міфы, байкі, песні, крылатыя выразы), што дазволіць школьнікам стварыць асабістую версію гісторыі. Сфармулюем вядучыя крытэрыі адбору гістарычных крыніц для ўрокаў:

— адпаведнасць мэтам і задачам тэмы;
— арганічная сувязь з праграмным матэрыялам, зместам урока;
— тыповасць для вывучаемага гістарычнага перыяду;
— забяспечанасць альтэрнатыўнага ўспрымання гістарычных фактаў, працэсаў, падзей;
— актуальнасць і навізна гістарычных ведаў;
— дастатковасць інфармацыі для развіцця пазнавальнай самастойнасці і зацікаўленасці, крытычнага мыслення.

Раскрываючы ролю і значэнне работы з гістарычнымі крыніцамі на ўроках асаблівую ўвагу трэба надаваць пытанням аб відах крыніц і дакументаў; прыёмам работы з імі; арганізацыі вучэбнай работы вучняў з дакументамі на ўроку і дома; развіццю здольнасцей самастойнага вывучэння гістарычнай крыніцы. У гэтай сувязі арыенцірам для настаўніка могуць быць наступныя ўменні, якімі павінны авалодаць школьнікі: вызначаць лініі параўнання розных гістарычных крыніц; выяўляць супярэчныя акты, меркаванні, ацэнкі; адбіраць праўдзівую інфармацыю, абгрунтоўваючы свой выбар; ажыццяўляць крытыку адхіленых меркаванняў.

Фарміраванне названых уменняў вызначае сістэмнае выкарыстанне актыўных форм арганізацыі вучэбнай дзейнасці школьнікаў: правядзенне практыкумаў, урокаў лабараторнага тыпу, семінараў, дыскусій, канферэнцый і г.д. Акрамя таго, уключэнне метадычных прыёмаў, звязаных з адпрацоўкай асобных вучэбных прыёмаў, звязаных з адпрацоўкай асобных вучэбных аперацый, напрыклад, трэнінгаў, праблемных і творчых заданняў, будзе садзейнічаць рэалізацыі дадзенай задачы. Такая работа на ўроках дазволіць многім вучням якасна падрыхтавацца да рэспубліканскай алімпіяды, якая будзе праводзіцца і ў наступным навучальным годзе.

Для арганізацыі вышэйназванай работы з крыніцамі гістарычных ведаў раім настаўнікам азнаёміцца з наступнай літаратурай і выкарыстаць яе пры правядзенні нарад і пасяджэнняў метадычных аб'яднанняў настаўнікаў гісторыі:

Бородина В.А., Бородин С.М. Учим... читать. — Л., 1985 г.

Вяземский Е.Е., Стрелова О.Ю. Методика преподавания истории в школе. — М., 1999.

Короткова М.В., Студеникин М.Т. Методика обучения истории в схемах, таблицах, описаниях. — М.: ВЛАДОС, 1999.

Степанищев А.Т. Методический справочник учителя истории. — М.: ВЛАДОС, 2000.

Студеникин М.Т. Методика преподавания истории в школе. — М.: ВЛАДОС, 2000.

---

Вопыт

## Філалогія — яе жыватворная крыніца

*Ларыса Раманаўна Гардзіеўская — педагог, вядомы на Бярэзіншчыне. Вопытны філолаг-метадыст, які працуе ў інавацыйным рэжыме, спрактыкаваны кіраўнік Якшыцкай базавай школы.*

Пасля заканчэння філфака БДУ прыехала Ларыса Раманаўна на Бярэзіншчыну. І вось ужо 25 гадоў аддае свой прафесійны талент вясковай дзятве.

Адзін з лепшых выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры раёна. Майстар сваёй справы, наватар. Ларыса Раманаўна — сур'ёзны даследчык праблемы псіхолага-педагагічных асноў выкладання прадмета. Не адзін дзесятак адкрытых урокаў на рахунку Гардзіеўскай, і ўсе яны (у розныя часы) атрымалі пяцёрку, — расказвае арганізатар раённага аддзела адукацыі В.І.Клімовіч.

Сёння Л.Р.Гардзіеўская — госць "Настаўніцкай газеты".

**— Ларыса Раманаўна, 25 гадоў вы працуеце ў сельскай малакамплектнай школе, дзе напаўняльнасць класаў 5—6 вучняў, а то і тры. Як вы ладзіце вучэбны працэс, каб дзеці любілі ваш прадмет, з ахвотай ішлі на ўрок?**

— Так, малалікасць вучняў малакамплектнай школы нараджае такую з'яву як псіхалагічная манатомія і патрабуе ўкаранення індывідуальных, групавых, гульневых педагагічных тэхналогій.

Таму весці традыцыйныя ўрокі — азначае "сваімі рукамі" рабіць свой прадмет нелюбімым для вучняў. Менавіта таму я імкнуся будаваць свае ўрокі так, каб адзін не быў падобны на другі. Карткі, работа ля дошкі, напісанне творчых работ, гуртковая дзейнасць, факультатыўныя курсы — гэта тое, што дае магчымасць рабіць урокі цікавымі і прыцягальнымі для дзятвы. Шырока выкарыстоўваю нетрадыцыйныя формы ўрока: падарожжы ў краіну слоў, урокі-суды, гульні тыпу "Поле цудаў", залікі, канферэнцыі. Не, я не ператвараю ўрок у гульневае шоу. Навуковасць, глыбіня тэарэтычных ведаў, пазнавальнасць на кожным уроку — аснова маёй дзейнасці. Галоўнае тут тое, што я даю магчымасць выказацца кожнаму вучню. Але перад гэтым падказваю: "Дзеці, вы на ўроку мовы, а таму імкніцеся гаварыць граматна, прыгожа, паэтычна". І мае вучні стараюцца...

**— Ваш прадметны кабінет — лепшы ў школе. Ці стаў ён вучэбна-метадычным цэнтрам для настаўнікаў, вучняў, бацькоў? Ці спрыяе ён развіццю і ўдасканаленню тых, хто займаецца рускай мовай і літаратурай?**

— Безумоўна, так! У кабінеце ёсць усё да паслуг вучняў. Тут жа захоўваюцца і працы вучняў. У кабінеце шмат рукапісных альбомаў з грыфам "Першая спроба пяра маіх выхаванцаў", сшыткі з сачыненнямі адораных дзяцей з іх працамі дзесяцігадовай даўнасці, тоўстыя альбомы з ілюстрацыямі да літаратурных твораў, падрыхтаваныя вучнямі ў розныя гады.

А падборцы метадычнай, дыдактычнай і дапаможнай літаратуры для педагога можа пазайздросціць нават "бывалы" філолаг.

У пазаўрочны час на базе кабінета я развіваю сваіх гуртко́ўцаў, вучу пісаць вершы, артыстычна дэкламаваць паэзію і прозу, пісаць заявы, распіскі, пратаколы (практыка паказвае, што нашы выпускнікі кепска валодаюць гэтымі навыкамі). Кабінет мой па выніках атэстацыі рабочага месца настаўніка атрымаў вышэйшую катэгорыю.

**— А якая пазакласная работа ладзіцца па прадмеце?**

— Пазакласная работа па рускай мове і літаратуры ладзіцца пры актыўнай дапамозе трох гурткоў, факультатыва, клуба "Жывое слова", гуртка "Паэзія". Вечары паэзіі, пасяджэнні клубаў "Правільна гавары", "Паходжанне слоў" дапамагаюць маім вучням быць гаваркімі, не саромецца выказваць свае думкі і меркаванні.

**— Раскажыце пра літаратурныя пяціхвілінкі, якія вы практыкуеце:**

— Кожны свой урок я пачынаю з літаратурнай пяціхвілінкі: дэкламуюць дзеці, чытаю сама. Дзелімся ўражаннем аб прачытаным, рэкамендуем, што пачытаць. Такім чынам я развіваю літаратурныя густы, артыстызм, мову, дыкцыю вучняў і кантралюю пазакласнае чытанне выхаванцаў. Мае падлеткі старэйшых класаў арганізоўваюць літаратурныя пяціхвілінкі і гасцёўні для маленькіх.

**— А што вы можаце сказаць, Ларыса Раманаўна, пра выніковасць сваёй працы?**

— 25 гадоў я ў школе. І штогод адзін, а калі і два вучні пасля дзесяцігодкі паступаюць у ВНУ на філфак. Амаль штогод мае вучні перамагаюць на раённых алімпіядах па мове, былі ўдзельнікамі абласных алімпіяд. Радуюся, што мае выпускнікі добра валодаюць мовай, прыгожа выказваюць думкі, яны ў сваіх сем'ях маюць шыкоўныя бібліятэкі. Больш як 60 працэнтаў вучняў займаюцца на "4" і "5".

*Аляксандр Дубовік (9 клас) пра сваю настаўніцу кажа так:*

*— Ларыса Раманаўна — мая любімая настаўніца, але яна любімая для многіх. Як дырэктар — яна лідэр у школе. За ёй упэўнена ідуць педагогі, да яе цягнуцца вучні, вераць ёй, лічаць сваім найлепшым сябрам і дарадцам. Праз усё сваё жыццё я пранясу памяць аб маёй настаўніцы. Яе вучоба — праграма на жыццё...*

**— Ларыса Раманаўна, праца педагога-філолага цяжкая: сшыткі, сшыткі, сшыткі... Пастаянна патрэбна выпраўляць памылкі, клапаціцца і несці адказнасць за граматнасць, культуру мовы юнай змены. Вы не шкадуеце, што выбралі гэткі шлях?**

— Не! Я шчаслівая, што 25 гадоў сею разумнае, добрае, вечнае. Каб прыйшлося пачынаць жыццё, то выбрала б шлях толькі настаўніцкі. Пасля БДУ імкнулася вывучаць вопыт лепшых педагогаў-філолагаў Бярэзіншчыны: Ніны Васільеўны Беладзед, Чэславы Паўлаўны Махнач, Ганны Іванаўны Ермаковай, Алы Васільеўны Каспяровіч, Іны Іосіфаўны Лютарэвіч, Кімы Іванаўны Калбаска... Пасля ўзаемін з гэтымі творчымі, апантанымі педагогамі-падзвіжнікамі хацелася яшчэ больш працаваць, аддавацца любімай справе. А філалогія — мая стыхія, мая жыватворная крыніца. Мая пазіцыя такая: ні дня без прачытанай старонкі. Такую ідэю я ўзрошчваю і ў сваіх вучнях.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**



Юны бард Сяргей Скамейка з Бялынічаў толькі перайшоў у сёмы клас, але яго песні ўжо ведаюць у раёне і вобласці. Ён сам піша вершы, а таксама музыку і спявае.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

---

# *Па старонках Інтэрнета*

### У Расіі распрацавана глабальная праграма інфарматызацыі адукацыі

Першая палова 90-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя ў Расіі, як і на ўсёй постсавецкай прасторы, была адзначана кардынальнай ломкай усяго эканамічнага ўкладу, сацыяльна-палітычных адносін у грамадстве. У гэтай сітуацыі найбольш пацярпелымі аказаліся тыя сферы, якія цалкам залежалі ад дзяржаўнага фінансавання — адукацыя, навука, культура. Пад выглядам рэфармавання дзяржава проста скарачала падтрымку сацыяльнай сферы, у выніку чаго вядучыя пазіцыі расійскай адукацыі шмат у чым былі страчаны. Новае кіраўніцтва краіны ўзяло курс на стварэнне эфектыўнай рынкавай эканомікі і, разам з тым, на самы актыўны ўдзел дзяржавы ў вырашэнні сацыяльных пытанняў. Што датычыцца адукацыі, то тут плануецца самая сур'ёзная мадэрнізацыя як матэрыяльна-тэхнічнай базы, так і усёй арганізацыйнай структуры. Пры гэтым прадугледжваюцца значныя дзяржаўныя інвестыцыйныя праекты ў галіне адукацыі.

Зараз у Расійскай Федэрацыі актыўна абмяркоўваецца праект федэральнай мэтавай праграмы "Развіццё адзінай адукацыйнай інфармацыйнай прасторы на 2002-2006 гг.", які быў распрацаваны рабочай групай пад эгідай Міністэрства адукацыі па даручэнні Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна. Дзеля падключэння да абмеркавання праграмы самых шырокіх слаёў грамадскасці яе праект змешчаны ў Інтэрнеце.

Уражвае плануемая сума інвестыцый. Згодна з праектам, мяркуецца выдзеліць 56 мільярдаў рублёў, з якіх 25 возьме на сябе федэральны бюджэт, 18 — бюджэты суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, яшчэ 13 мільярдаў будзе выдаткавана з пазабюджэтных крыніц. Найбольшая сума прызначаецца для камп'ютэрызацыі агульнаадукацыйных школ — 32 з паловай мільярда рублёў, установы пачатковай і сярэдняй прафесійнай адукацыі атрымаюць звыш 16 мільярдаў рублёў, на інфарматызацыю ВНУ адпускаецца крыху больш 6 мільярдаў рублёў.

Праграма будзе ажыццяўляцца ў два этапы. На першым (2002-2003 гг.) асноўнымі будуць распрацоўка праграм вучэбных планаў і матэрыялаў, разгортванне курсаў павышэння кваліфікацыі выкладчыцкіх кадраў, пачатак пастаўкі ў адукацыйныя ўстановы камп'ютэрнай тэхнікі. На гэтым жа этапе павінна распачацца стварэнне сістэмы доступу школ усіх ступеняў да інфармацыйных адукацыйных рэсурсаў. Другі этап (2004-2006 гг.) прадугледжвае завяршэнне аснашчэння адукацыйных установ вылічальнай тэхнікай, выпуск і тыражыраванне электронных вучэбных матэрыялаў, арганізацыю службы сервіснага абслугоўвання.

Распрацоўшчыкі праграмы канстатуюць той факт, што па ўзроўні інфарматызацыі расійская школа значна адстае не толькі ад развітых краін, але і ад многіх дзяржаў так званага трэцяга свету. Па даных міжнародных арганізацый на 1999 г. Расія з'яўляецца бадай ці не адзінай краінай у свеце, дзе колькасць камп'ютэраў у школах скарачаецца. Зараз большую частку тэніхкі, якая ёсць у навучальных установах, складаюць маральна і фізічна састарэлыя, устаноўленыя яшчэ ў 1985-1992 гг камп'ютэры першага пакалення. У большасці выпадкаў няма нават магчымасці выкарыстаць тыпавыя праграмы Windows 95/98, якія знаходзяцца ва ўжытку абсалютнай большасці ўладальнікаў тыпавых камп'ютэраў у Расіі. Менш за 2 працэнты агульнаадукацыйных устаноў маюць сродкі сеткавага ўзаемадзеяння, і толькі 1,5 працэнта — выхад у Інтэрнет. На сённяшні дзень толькі ў 20 працэнтаў школ ёсць спецыялісты ў галіне інфарматыкі, а на аднаго такога спецыяліста прыходзіцца каля 1000 вучняў. На 1 камп'ютэр у школах Расіі ў сярэднім прыпадае 500 вучняў.

Асабліва цяжкае ў гэтым плане становішча сельскай школы, дзе навучаецца каля адной трэці ўсіх дзяцей краіны. Нават па дзеючых нарматывах на канец 2000 г. яна была аснашчана камп'ютэрамі і сродкамі тэлекамунікацый толькі на 5 працэнтаў. Пэўнае паляпшэнне чакаецца ў выніку ажыццяўлення праграмы камп'ютэрызацыі сельскіх школ, рэалізацыя якой намечана на гэты год. Аднак нават пры поўным выкананні названай праграмы будзе пастаўлена толькі мінімальная па расійскіх мерках колькасць камп'ютэраў, і гэты крок можна будзе лічыць толькі першапачатковай мерай на шляху мадэрнізацыі сельскай школы.

Не самым лепшым чынам выглядае і становішча прафесійнай адукацыі. Так, у ВНУ, сярэдніх спецыяльных установах толькі 25 працэнтаў выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання маюць пачатковы (азнаямляльны) узровень у галіне інфарматыкі. Хаця большасць вышэйшых навучальных устаноў і мае доступ да глабальных камп'ютэрных сетак, узровень інфарматызацыі навуковай і вучэбнай дзейнасці ў абсалютнай большасці з іх крайне нізкі.

У выніку рэалізацыі праграмы становішча мяркуецца кардынальным чынам змяніць. Мяркуецца, што ў Расійскай Федэрацыі будзе створана цэлая індустрыя электронных вучэбных матэрыялаў і праграмна-метадычнага забеспячэння. Будзе разгорнута сетка электронных бібліятэк, уведзена сістэма дыстанцыйнага навучання. Колькасць камп'ютэраў у школах плануецца давесці да суадносін: 1 камп'ютэр на 80 вучняў. 50 працэнтаў агульнаадукацыйных і 70 працэнтаў прафесійных навучальных устаноў павінны атрымаць доступ да глабальных інфармацыйных рэсурсаў. Для ВНУ, істотнай праблемай якіх стала не заўсёды якасная сувязь па Інтэрнеце, неабходна аб'яднаць высокую хуткасць з прапускной здольнасцю 256 Kb/sek-2 Mb/sek. У гэтым выпадку вышэйшыя навучальныя ўстановы Расіі могуць стаць важнымі пастаўшчыкамі інфармацыйных паслуг для агульнаадукацыйнай і сярэдняй прафесійнай школы.

Распрацоўшчыкі праекта падкрэсліваюць, што праблема інфарматызацыі расійскай адукацыі не можа быць вырашана толькі з дапамогай існуючых у краіне рынкавых механізмаў. Прыняцце праграмы стала вынікам змяненняў у дзяржаўнай адукацыйнай палітыцы, сведчаннем імкнення дзяржавы вывесці айчынную адукацыю на сусветны ўзровень.

### Адбудзецца віртуальны педсавет

Па ініцыятыве Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі з 27 жніўня па 3 верасня бягучага года адбудзецца віртуальны ўсерасійскі педсавет. Падчас яго будзе арганізавана серыя відэаканферэнцый, чатаў і форумаў у глабальнай камп'ютэрнай сетцы Інтэрнет, прысвечаных актуальным пытанням і праблемам навучання. Адпаведныя інфармацыйныя лісты накіраваны ўсім муніцыпальным органам кіравання адукацыяй і адукацыйным установам, якія маюць магчымасць узяць удзел у віртуальнымпедсавеце.

### На Украіне таксама пераходзяць на 12-бальную сістэму ацэнкі ведаў

Ва ўкраінскіх школах ужо з верасня мінулага года была ўведзена 12-бальная сістэма ацэнкі ведаў. І вось цяпер, згодна з загадам міністра адукацыі і навукі Украіны Васіля Крэменя, у першым паўгоддзі наступнага навучальнага года на такую сістэму павінны перайсці і ўсе прафесійна-тэхнічныя ўстановы краіны. Як адзначаецца ў загадзе, рашэнне прынята ў мэтах гуманізацыі прафесійна-тэхнічнай адукацыі, укаранення асобаснага падыходу да навучэнцаў, а таксама для павышэння якасці і аб'ектыўнасці ацэнкі іх ведаў. У адпаведнасці з дакументам вучэбна-метадычныя цэнтры прафесійна-тэхнічнай адукацыі павінны распрацаваць і прапанаваць меры па аказанні метадычнай дапамогі ПТВ па ўкараненні 12-бальнай ацэначнай шкалы.

### Лішкі фінансавых сродкаў будуць выдаткоўвацца толькі на патрэбы навучальных устаноў

Міністэрства адукацыі Нідэрландаў абнародавала пастанову, у адпаведнасці з якой навучальныя ўстановы, што здолелі сэканоміць сродкі, выдзеленыя з дзяржаўнага бюджэту на патрэбы адукацыі, не маюць права ўкладваць іх у маёмасць і каштоўныя паперы, выкарыстоўваць у іншых фінансава-гаспадарчых аперацыях. Згодна з дакументам, адміністрацыі ўстаноў могуць выдаткоўваць гэтыя грошы толькі на ўдасканаленне методык выкладання, мадэрнізацыю матэрыяльна-тэхнічнай базы, матэрыяльнае заахвочванне выкладчыкаў і тэхнічнага персаналу.

### У Турцыі з'явіцца віртуальная адукацыя

Восенню бягучага года пры Аналалійскім універсітэце ў Стамбуле з'явіцца першы ў краіне "віртуальны універсітэт", навучанне ў якім будзе каштаваць 500 долараў ЗША.

Кожны студэнт будзе забяспечаны адпаведнымі вучэбнымі праграмамі на лазерных дысках і спецыяльным камп'ютэрным абсталяваннем ад кампаніі Microsoft. Акрамя таго, навучэнцы праслухаюць чатырохгадзінныя курсы па навучанні рабоце на камп'ютэры. Галоўная ўмова навучальнага працэсу — абавязковае "наведванне" ўсіх лекцый, трансляцыя якіх будзе ажыццяўляцца праз глабальную сетку Інтэрнет. Па заканчэнні віртуальнай ВНУ выпускнікі атрымаюць універсітэцкія дыпломы і спецыяльныя сертыфікаты ад кампаніі Microsoft.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір МАЦУСЕВІЧ.**

---

Перыёдыка

## "Адукацыя і выхаванне"

"І доўжыцца свята..." — такім загалоўкам адкрываецца сёмы нумар часопіса "Адукацыя і выхаванне". Пад ім змешчаны віншавальныя словы ў сувязі з 10-годдзем з дня заснавання выдання, з якімі звяртаюцца кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М.У.Мясніковіч, намеснік Прэм'ер-міністра нашай краіны М.І.Дзямчук, рэктар Акадэміі паслядыпломнай адукацыі А.І.Таўгень, а таксама рэпартаж са свята.

З артыкулам "Ліцэі ў сістэме бесперапыннай адукацыі: новыя мэты і задачы" выступаюць А.І.Жук, А.У.Казулін і Г.У.Пальчык. Заўсёды злабадзённай і актуальнай праблемай была сацыяльная абарона адукацыі. "Як забяспечыць сацыяльную абароненасць адукацыі", — разважаюць М.Р.Кірыенка, В.Дз.Жалезнякоў і іншыя аўтары. Яны пішуць пра адставанне ўзроўню заработнай платы педагогаў ад адпаведных сярэдніх паказчыкаў, якія склаліся ў прамысловасці, у народнай гаспадарцы, а таксама пра іх дадатковую занятасць па-за ўстановамі сістэмы адукацыі, што адмоўна ўплывае на якасць навучальна-выхаваўчага працэсу.

Пад рубрыкай "Рэформа адукацыі" змешчаны матэрыял А.У.Папковай і В.С.Аранскай наконт падрыхтоўкі вучняў да авалодання інфармацыйнымі тэхналогіямі, вынікам чаго ў III тысячагоддзі стане інтэграцыя Рэспублікі Беларусь у сусветную эканоміку і паспяховая канкурэнцыя на сусветным рынку працы. З артыкулам "Моўная падрыхтоўка настаўніка да ўрока" выступае В.П.Мышко, якая распавядае не толькі пра спосабы рэалізацыі асноўных задач па навучанні, развіцці і выхаванні вучняў, але і пра арганізацыю моўнай дзейнасці настаўніка, што забяспечвае іх рэалізацыю.

Думаецца, чытач з задавальненнем пазнаёміцца з цікавым матэрыялам кандыдатаў педагагічных навук С.А.Пуймана і В.В.Чэчата "Сучасныя метады выкладання педагогікі", дзе расказваецца аб праблемных задачах і сітуацыях, дыферэнцыяваных тэстах, навучальна-пазнавальных гульнях, вучэбных дэбатах і да т.п. Усе гэтыя педагагічныя знаходкі дапамагаюць выхоўваць творчую асобу і рыхтаваць будучага спецыяліста да прафесійна-педагагічнай дзейнасці.

Пра агульную школьную адукацыю ў Ірландыі (рубрыка "Параўнальная адукацыя") паведамляе М.Ю.Раеўская. Ухвальна тое, што сярэдняя адукацыя гэтай краіны імкнецца "ўпісацца" ў агульнаеўрапейскую адукацыйную прастору. Увогуле, гэтая рубрыка ў сёмым нумары "АіВ" прадстаўлена багата. Тут расказваецца і пра дыферэнцыяцыю ў сучаснай школьнай адукацыі Англіі (А.І.Перавозны), гімназічную адукацыю ў Даніі (У.П.Старасценка), дыстанцыйнае навучанне за мяжой (І.А.Таўгень) і інш.

Этычныя вартасці хрысціянскай рэлігіі ў выхаванні дзяцей сталі актуальнымі ў наш час. І гэта пацвярджае Н.І.Вашчанка, паглыбляючыся ў яе гісторыю і праецыруючы назапашаныя каштоўнасці рэлігійнага выхавання на сучаснасць.

Не абмінуў наш часопіс і такую важную падзею, як выхад у свет цікавай кнігі "Психологический словарь-справочник" (аўтары — М.І.Дзьячэнка і Л.А.Кандыбовіч). Яе рэцэнзуе доктар псіхалагічных навук, прафесар Я.Л.Каламінскі.

Увогуле сёмы нумар часопіса "АіВ" атрымаўся змястоўным, і яго чытач будзе ўдзячны выданню за матэрыялы, якія прапануюць нам цікавую інфармацыю.

**Л.ЗАБАЛОЦКАЯ.**

